# КРЫВІНКА

ТРАВЕНЬ
№9 (253)
2020 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА



МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## БЕШАНКОВІЦКІЯ ІДЭОЛАГІ

**Адразу папярэджваю, што ў мяне існуе ўнутранае непрыняцце гэтай катэгорыі работнікаў. Я лічу, што яны наогул непатрэбныя ні нашай дзяржаве, ні нашай народнай гаспадарцы, ні нашым працоўным калектывам. Такая мая асабістая думка. Пагадзіцеся, што надоенае на ферме малако аніякім бокам не звязанае з тым, прыязджала сюды ідэалагічная група да кароў ці не. А вось з сваечасовым кармленнем і даеннем надоенае малако звязанае непасрэдна.**

У нашай жа дзяржаве чамусьці той, хто тлумачыць даярцы, якая ейная праца важная, атрымоўвае значна больш, чым сама даярка.

І на гэту вельмі адказную работу, па майму назіранню, ідуць браты, сваты, кумы тых, хто займае адказныя пасады... Адным словам, родныя тых, хто не вельмі ўважае брудную працу. Не хоча глытаць пыл на трактары, падымацца ні свет ні зара, каб падаіць кароў. Карацей, не з сошкай, а з лыжкай. Нашага брата, які арэ, сее, жне, доіць, туды не пусцяць за вярсту.

У Бешанковіцкім раёне, як у цэлым па Беларусі, ідэалагічнага актыву столькі, што яго збіраюць на нарады, каб распавесці, як яму трэба працаваць у вельмі складанай сучаснай абстаноўцы.

Адкрываючы такую чарговую нараду з бешанковіцкімі ідэолагамі, намеснік старшыні райвыканкама Мікалай Заблоцкі адзначыў, што «менавіта ідэалагічная праца, ахопліваючы розныя аспекты жыцця чалавека, фарміруе грамадзяніна і патрыёта, неабыякавага да сучаснасці і будучыні як сваёй малой радзімы, так і краіны ў цэлым.»

Што ж, яму відней. Бо за 30 з гакам гадоў працы ў райвыканкамаўскіх органах ён засвоіў гэта на сваёй скуры. Заўважце, настаўнік па адукацыі, Мікалай Анатольевіч адпрацаваў па прафесіі літаральна некалькі гадоў, а далей сышоў у ідэалагічную сферу. Чаму, спытаеце вы? Мо не вельмі хацеў пісаць паўрочныя планы? Мо адчуў у сябе патрыёта, неабыякавага да сучаснасці? А мо болей за іншых адчуў, што наступіў адказны перыяд выбараў прэзідэнта? Гэта можа распавесці толькі ён сам.

На памянёнай сустрэчы ідэолагаў канстатавалі, што «сёння ідэолагі вырашаюць вялікае кола пытанняў. Гэта не толькі правядзенне дзён інфармавання, сустрэч з насельніцтвам, праца інфармацыйна-прапагандысцкіх груп, але і замацаванне маладых спецыялістаў, арганізацыя работы грамадскіх аб'яднанняў, падпісная кампанія...»

Заўважце, што вялікае кола пытанняў пачынаецца з правядзення дзён інфармавання. Нібыта тыя бязмозглыя істоты, для якіх праводзяцца тыя дні, непісьменныя, не маюць мабільных тэлефонаў і не валодаюць інтэрнэтам, і іх конча патрэбна інфармаваць.

Ці не адзінае пытанне, якое па-сапраўднаму хвалюе працоўны люд у нашых калгасах і на прадпрыемствах такое: ЧАМУ НАМ ПЛАЦЯЦЬ ТАК МАЛА? І вось тыя, у каго гэтыя заробкі зашкальваюць, прыязджаюць да жабракоў і тлумачаць ім, колькі яны павінны араць і даіць, каб атрымоўваць дастойны заробак. Смех, ды й годзе!

Пра падпісную кампанію і гаварыць не варта. Але я скажу. Каб трымаць у раёне цэлую газету — па-сутнасці свой рупар, райвыканкам навязвае кожнаму працоўнаму калектыву ейную падпіску. Хаця чытаць у той газеце (за вельмі рэдкім выключэннем) няма чаго. Бо акрамя назвы «газета» трэба мець яшчэ штат журналістаў, якія б без ідэалагічна выверанага чынніка змаглі б надрукаваць думкі простых людзей — кожнага грамадзяніна, хто хоча сказаць сваё слова, КОЖНАГА, без выбару.

Гэта і ёсць газета для народа, у якой кожны будзе мець права голасу і абмеркавання тых праблем, якія пакуль што абмяркоўваюцца толькі ў бытоўках і на кухнях. Тое ж, што нам падсоўваюць узамен — танная падмена, фальшыўка. Калі вельмі коратка, змест гэтай падмены прыкладна такі: «Вы — працуеце і маўчыце, мы — атрымоўваем дастойныя заробкі.»

Наша новая старшыня райвыканкаму Галіна Унуковіч лічыць, што асноўнай мэтай ідэалагічнай работы на месцах з'яўляецца згуртаванне працоўнага калектыву. Што ж, у добрым калектыве, дзе кожны адказвае за паплечніка, працуецца лягчэй. І паказнікі там радуюць вока. Толькі ж зноў-такі, у добрым калектыве і заробкі павінны быць дастойныя ў кожнага сябра гэтага калектыва. Але ж тады нам не патрэбны ні штат ідэолагаў, які падымае іхні дух, ні дні інфармавання.

Патрэбна толькі справядлівасць і праўда, пра якія за апошнія 25 гадоў усе грунтоўна падзабыліся. А без гэтых двух складнікаў не дапаможа аніякі штат ідэолагаў, аніякая газета, аніякія нарады.

**Г.Станкевіч**

### ****

*Шэрых дзён аднастайных рака*
*ашчасьлівіць усьмешкай*
*белай вішні спачатку,*
*а потым – ігрушыны сукняй,*
*што стаіць сіратліва*
*дзе-небудзь*
*на ціхім узьмежку.*
*Белай казкай затопіць*
*увесь белы сьвет –*
*і патухне.*

*Я б памёр пад ігрушынай гэтай,*
*напэўна, даўно ўжо,*
*калі б у месяцовым разьліве*
*сады не буялі,*
*калі б вольныя думкі мае*
*сон падступны стрыножыў,*
*і вясновай душы ўтаймаваў*
*неўтаймоўныя хвалі.*

*Я б даўно ў іншы сьвет адышоў*
*або з'ехаў кудысьці,*
*калі б п'яны дарэшты*
*ўабдымках няспаўздзьмухаўцамі,*
*калі б неба сышло на зямлю*
*дзеля нечай карысьці,*
*а ня сыпала зоры штоноч*
*са сваёй курасадні.*

*І пакуль іхні рой*
*мчыць дажджом*
*зь недасяжных сусьветаў,*
*каб зрабіць нам балюча,*
*каб сон адагнаць наш і морак,*
*мы заўжды будзем жыць*
*непаўторнаю музыкай гэтай,*
*як жывуць дзьмухаўцы*
*на самотнай Зямлі*
*снамі зорак.*

**Г.Станкевіч**



КАМПАНІЯ 2020

## ПАКЛІКАНЫЯ

**У ходзе адкрытага галасавання старшынёй Бешанковіцкай раённай камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 9-га жніўня 2020 года абрана Таццяна Петрушэнка. Намеснікам старшыні будзе Уладзімір Жук, сакратаром камісіі — Анжэла Буйлова.**

Яно ўсё, здаецца, як трэба, па законе. Сябры камісіі ўнеслі прапановы, прагаласавалі, зацвердзілі.

Адно толькі пытанне ўзнікае, таксама законнае. Чаму ж на кожных выбарах у Бешанковічах выбіраюцца ў камісіі і старшынююць адны і тыя ж людзі? І не простыя працаўнікі, даяркі ці кухаркі, а пераважна адказныя работнікі Бешанковіцкага райвыканкаму?

Тая ж Таццяна Петрушэнка, якая з'яўляецца начальніцай арганізацыйна-кадравай і юрыдычнай работы райвыканкама, праводзіць далёка не першыя свае выбары. Мусіць, патрэбны працэнт на кожных выбарах забяспечвае. А, значыцца, патрэбы ў нейкай яе замене няма.

Пенсіянер Уладзімір Пятровіч Жук -- асоба заслужаная. З савецкіх часоў без яго, мусіць, не абыходзіліся аніводныя выбары. І ў эпоху Лукашэнкі такімі каштоўнымі кадрамі не раскідваюцца. Ён свой каштоўны вопыт перадае маладзейшым. Уладзімір Пятровіч, наколькі я ведаю, маёр КДБ. І гэтым усё сказана. Як вядома, былых работнікаў нябачнага фронту не бывае.

- Ва ўчастковых выбарчых камісіях працуюць у асноўным людзі вопытныя, якія прайшлі не адну выбарчую кампанію, - адзначыла падчас знаходжання на Астровенскім участку начальнік арганізацыйна-кадравай і юрыдычнай работы райвыканкама Таццяна Петрушэнка ў лістападзе 2019 года. - Шмат хто кажа, што праца на выбарах для іх - амаль пакліканне (призвание -рус.). І гэта вельмі радуе, бо на членаў камісій, асабліва на іх кіраўнікоў, ускладзена вялікая адказнасць за тое, каб усе дзеянні на участках узгадняліся з Выбарчым кодэксам.

Вось і я заўважыў тую ж тэндэнцыю: як і ў Бешанковіцкай раённай, так і ва ўчастковых камісіях працуюць адны і тыя ж людзі. Вопытныя. Не з адной выбарчай кампаніяй за плячыма. Яны ўмеюць праводзіць датэрміновае галасаванне, у якім удзельнічае амаль палова насельніцтва раёна. Умеюць падводзіць вынікі, якія чамусьці заўсёды такія, якія патрэбныя вышэйшым камісіям у вобласці і рэспубліцы.

Пажадаем ім поспехаў і на гэтых выбарах, каб гэтыя выбары не сталі для большасці з іх апошнімі.

**Г.Станкевіч**

## "ВЫБАРЫ" ПРЭЗІДЭНТА «ВКОНТАКТЕ»

**У суполцы «Навіны Бешанковіч» сацыяльнай сеткі «ВКонтакте», дзе на сёння зарэгістравалася 1346 чалавек, з 22-га па 27-га траўня праводзілася апытанне «Як бы вы прагаласавалі, калі б выбары праводзіліся ўжо заўтра?».**

Па выніках галасавання, якія былі падведзеныя 27-га траўня, лідэрам стала Святлана Ціханоўская (жонка блогера Сяргея Ціханоўскага), якія набрала 28% галасоў.

На другім месцы Віктар Бабарыка (экс-глава «Белгазпрамбанка») з 18,3%.

Столькі ж рэспандэнтаў (18,3%) прагаласавала супраць усіх кандыдатаў.

14,6% апытаных выказалі думку, што яны не пойдуць на галасаванне.

Аляксандр Лукашэнка набраў 9,76% галасоў. Толькі 8 чалавек з 570 прагледзеўшых і 82-х прагаласаваўшых аддалі свой голас за кіраўніка сённяшняй Беларусі.

Каля 5% набраў Валеры Цапкала (экс-глава Парка Высокіх Тэхналогій).

Астатнія чатыры ўдзельнікі выбарчай кампаніі набралі менш 3% галасоў.

**А.Тутэйшы**

COVID-19

## ПРАГНОЗ РАЗВІЦЦЯ КАРАНАВІРУСА Ў БЕЛАРУСІ

**За час пандэміі каранавіруса далі не адзін прагноз аб тым, калі ў Беларусі чакаць піка захворвання. Зараз спецыялісты сыходзяцца ў меркаванні: мы на плато. Што будзе далей? Чакаць нам піка ці не?**

На пытанні TUT.BY адказала намеснік галоўнага доктара Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага

***(працяг на стар. 2)***

COVID-19

*(пачатак на стар. №1)*
здароўя Ірына Глінская. Паводле яе слоў, устойлівае зніжэнне захворванняў COVID-19 прагназуецца на канец мая — пачатак чэрвеня. — Мы зараз на плато, а калі будзе зніжэнне?

— Да канца мая — пачатку чэрвеня.

— Але калі пасля плато будзе зніжэнне, ці значыць гэта, што пік мы ўжо прайшлі?

— У нас не было, як такога, піка. Мы плаўна раслі і потым выйшлі на плато. Былі дні, калі колькасць выпадкаў была вышэйшая, ніжэйшая, але класічнага піка, як быў у Італіі, Іспаніі, калі яны ўзыходзілі на яго вельмі хутка і калі сістэма аховы здароўя была перагружаная, у нас не адзначалася. Мы пасля плаўнага павелічэння колькасці выпадкаў выйшлі на плато.

— Гэта значыць, мы ўжо пойдзем толькі на зніжэнне?

— Паводле прагнозу — так, зніжэнне прагназуецца плаўнае.

— У нас у краіне выхад на плато і зніжэнне ў адзін і той жа час ва ўсіх рэгіёнах адбываюцца?

— Канешне не. Віцебская вобласць і Мінск раней увайшлі ў эпідэмічны працэс, таму ў іх зніжэнне надыходзіць раней, а іншыя рэгіёны ўвойдуць у гэты перыяд пазней.

— Калі ў нас у чэрвені будзе зніжэнне, мы можам дасягнуць у ліпені і жніўні такога ўзроўню, калі практычна не будуць рэгістравацца новыя выпадкі?

— Гэта малаверагодна, нейкая колькасць выпадкаў будзе рэгістравацца. Сёння няма падстаў меркаваць, што вірус сыдзе і мы ўсе пра яе забудзем.

— Ці дакладна я разумею тэрмін «плато» - гэта перыяд, калі штодня практычна аднолькавы прырост новых выпадкаў?

— Гэта знаходжанне колькасці выпадкаў у пэўных межах, у нас гэта прыкладна ад 800 да 1000. Калі разлічваць долю новых выпадкаў у структуры агульнай колькасці выпадкаў, то яна прыкладна ў гэты перыяд на адным узроўні — дзесьці 3-5%. Калі гэты паказчык павялічваецца — гэта неспрыяльная прагнастычная прыкмета. Калі ён знаходзіцца ў пэўных рамках — гэта прагнастычная спрыяльныя прыкметы.

— Калі па падручніках, то колькі ў сярэднім доўжыцца плато?

— Гэтай інфекцыі няма ў падручніках, яна зусім новая. Мы праходзім шэраг этапаў: для таго каб наладзіць і сістэму дыягностыкі, і сістэму ўліку і прыйсці да аднастайных прынцыпаў па ўсіх краінах, каб можна было параўноўваць і ствараць нейкія мадэлі прагнозу. Дзякуючы тым мерам, якія мы прымалі, мы ўваходзілі на плато вельмі плаўна. Такіх краін мала, у іх плато доўжылася чатыры-пяць тыдняў. У нас плато ўжо больш за тры тыдні.

— У многіх краінах да восені чакаюць другую хвалю каранавіруса, у нас яе можа не быць?

— Зараз адсутнічаюць звесткі ў краін для таго, каб адназначна адказаць на гэтае пытанне. Вывучэнне сітуацыі працягваецца.

— Як людзям, асабліва тым, хто цяпер перайшоў на выдаленую працу і скарацію свае сацыяльныя кантакты, зразумець, што можна вяртацца да звычайнага жыцця?

— Рэкамендацыі Міністэрства аховы здароўя захоўваюцца: па сацыяльным дыстанцыяванні, куды ў тым ліку ўваходзіць і аддаленая праца, і рэжым нашэння масак там, дзе могуць быць крыніцы інфекцыі.

Міністэрства аховы здароўя праінфармуе ў выпадку адсутнасці неабходнасці ў выкананні прафілактычных мерапрыемстваў. Пакуль сітуацыя дыктуе, што гэтых мер трэба прытрымлівацца, і ад таго, наколькі мы будзем выконваць гэтыя меры, будзе залежаць і тэмп зніжэння колькасці новых выпадкаў.

**Наша Ніва**

КАМПАНІЯ 2020

# АПАЗІЦЫІ Ў КАМІСІЯХ НЯМА

**У склад тэрытарыяльных выбарчых камісій, сфармаваных у рамках прэзыдэнцкай кампаніі, уключылі толькі двух прадстаўнікоў апазыцыйных палітычных партый, сьведчаць дадзеныя, апублікаваныя на сайце ЦВК.**



Усяго сфармавалі 153 тэрытарыяльныя камісіі, куды ўключылі 1989 чалавек. У іх складзе:

62,69% — прадстаўнікі грамадзкіх аб'яднаньняў,

32,23% — грамадзяне, вылучаныя шляхам падачы заявы,

7,64% — сябры партый,

5,08% — прадстаўнікі працоўных калектываў.

Прадстаўнікоў апазыцыйных партый у складзе камісій толькі двое: сябра партыі БНФ уключылі ў адну з абласных выбарчых камісій, сябра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) — у адну з раённых.

Ад іншых партый, у тым ліку праўладных, у тэрытарыяльныя выбаркамы розных узроўняў уключылі 150 чалавек:

ад Камуністычнай партыі — 92,

Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасьці — 45,

Сацыял-дэмакратычнай партыі народнай згоды — 6

Лібэральна-дэмакратычнай партыі — 6,

Беларускай сацыяльна-спартыўнай партыі — 1.

Сярод прадстаўнікоў аб'яднаньняў:

324 — сябры прафсаюзаў, якія ўваходзяць у праздзяржаўную Фэдэрацыю прафсаюзаў Беларусі,

148 — Беларускага рэспубліканскага саюзу моладзі (БРСМ),

147 — праўладнага грамадзкага аб'яднаньня «Белая Русь»,

130 — Беларускага саюзу жанчын,

122 — Беларускага грамадзкага аб'яднаньня вэтэранаў,

96 — Беларускага фонду міру,

128 — прадстаўнікі іншых грамадзкіх аб'яднаньняў.

Таксама ў склад камісій уключылі 641 грамадзяніна, якія падавалі заяўкі, і 101 прадстаўніка працоўных калектываў.

Паводле статыстыкі ЦВК, жанчын сярод сябраў камісій 1254 чалавекі (63,05%), дзяржаўных службоўцаў — 389 чалавек (19,56%), грамадзян да 30 гадоў — 102 чалавекі (5,13%).

**Радыё Свабода**

СТРАТЫ

# СПАЧУВАЕМ…

**56-гадовая жыхарка Бешанковіч Лідзія Пышкіна памерла ў віцебскай бальніцы. Гэтая чорная вестка прыйшла раніцай 20-га траўня.**

Жанчына шмат гадоў працавала тэрапеўтам у мясцовай бальніцы. Апошнім часам была на групе інваліднасці пасля перанесенага інсульту. Захварэла Лідзія Яўгенаўна ў канцы красавіка. Як і шмат каго, яе забіралі спачатку з пнеўманіяй. Тэсты паказалі «кавід». Яна пэўны час правяла ў рэанімацыі, але пасля яе вярнулі ў звычайную палату. Затым перавялі ў Віцебск, бо, па словах знаёмых, бацькі жанчыны — былыя медыкі, яны дамовіліся, каб іх дачку лячылі ў абласным цэнтры. Здаецца, жанчыне палепшала, але ж…

«Яна перамагла каранавірус, — распавёў «Нашай Ніве» сын Лідзіі Яўгенаўны. — Амаль ачуняла, кіслarод аднавіўся, але не вытрывалі ныркі. Памерла ад нырачнай недастатковасці».

Хавалі Лідзію Пышкіну ў закрытай труне.

**Наша Ніва**

МЕДЫЦЫНА

# МЭДЫКІ ЧАКАЛІ БОЛЬШЫХ ДАПЛАТ

**Мэдыкі 30-й паліклінікі Менску абураюцца, што не атрымалі абяцаных выплат за працу з пацыентамі з COVID-19, а тыя, хто сам перахварэў, не атрымалі кампэнсацыі. Кіраўніцтва паліклінікі тлумачыць, што выплаты атрымалі ўсе, каму яны належаць па законе.**

**З «чыстай зоны» захварэлі 5 мэдыкаў, кампэнсацыі ніхто не атрымаў**

Мэдыкі, што зьвярнуліся на Свабоду, расказалі, што паліклініку падзялілі на дзьве зоны — так званыя «чыстую» і «брудную», і абяцаныя надбаўкі выплацілі ня ўсім.

«Чыстая зона» — гэта стаматалёгія, траўматалёгія, тэрапія і некаторыя іншыя аддзяленні. «Брудная зона» — гэта дзяжурныя лекары, якія прымаюць людзей з тэмпэратурай і іншымі сымптомамі, тэрапія, участковыя лекары. Надбаваак чакалі ўсе супрацоўнікі, на справе атрымалі ня ўсе.

«Надбаўка за COVID-19 даецца толькі супрацоўнікам, якія працуюць у „брудной зоне", і мэдработнікам участковай практыкі, якія бяруць мазкі ў асобаў з падазрэньнем на каранавірус, і далёка ня ў тых маштабах, што абяцалі.

Што тычыцца мэдыкаў з „чыстай зоны", пра кампэнсацыю нават гаворкі не вядзецца. Да таго ж падзел на гэтыя зоны — настолькі ўмоўны!» — кажуць супрацоўнікі паліклінікі.

Паводле інфармацыі мэдыкаў, якія зьвярнуліся на Свабоду, за апошнія тры тыдні з так званай «чыстай зоны» захварэлі старшая мэдсястра, дзьве мэдсястры і два дактары. Ніякіх выплат яны не атрымалі.

«Нам сказалі, што гэта, маўляў, «прафэсійная хвароба, мы выдзяляем вам індывідуальныя сродкі засьцярогі», — паведамілі абураныя мэдыкі. І дадалі, што сродкі засьцярогі, у прыватнасьці засьцерагальныя камбінэзоны, павінны мяняцца кожныя 2–3 гадзіны, а выдаюцца ў лепшым выпадку 1 раз на 2–3 дні.

**Галоўная доктарка: «Пытаньняў па выплатах ніхто не ўздымаў, усе задаволеныя»**

Галоўная доктарка 30-й паліклінікі Менску Іна Кісель прызнала, што мэдыкі, якія захварэлі, ва ўстанове ёсьць, але дакладнай іх лічбы не назвала.

«Так, захварэлыя ёсьць. Выплаты атрымліваюць усе ў адпаведнасьці з заканадаўствам, з указам прэзыдэнта — у залежнасьці ад перыяду працы. Пытаньняў па выплатах у нас ніхто не ўздымаў», — сьцьвярджае галоўная доктарка паліклінікі Іна Кісель.

На пярэчаньне, што ў рэдакцыю прыйшоў допіс ад незадаволеных, якія сьцьвярджаюць, што ўсім, хто перахварэў на каранавірус, адмоўлена ў кампэнсацыі, Іна Кісель паўтарыла, што ўсе, каму выплаты прадугледжаныя паводле ўказу № 131, іх атрымалі.

«Так, мы сустракаліся, нейкія моманты абмяркоўвалі. Што тычыцца матэрыяльнай дапамогі па прафсаюзнай лініі, яе атрымліваюць мэдыкі, калі з дыягназам COVID-19 чалавек быў больш за 21 дзень на часовай непрацаздольнасьці.

У ніводнага зь іх не ўстаноўлена вострага прафэсійнага захворваньня. Да 21 дня хваробы — адна выплата, больш за 21 дзень — іншая выплата», — сказала Іна Кісель.

І дадала, што ўсе, хто атрымаў выплаты, сумамі задаволеныя.

**Выплаты паводле 131-га ўказу павінны быць пацьверджаныя дакумэнтальна — адміністрацыяй установы**

Чаму выплаты атрымліваюць ня ўсе супрацоўнікі паліклінікі, якія неабходныя дакумэнты для кампэнсацыі, ці патрэбна мэдыкам самім пацьвярджаць, што яны працуюць з каранавіруснымі, Свабода запыталася ў юрыдычнай службе Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларусі.

Як патлумачыў Свабодзе юрыст ФПБ, мэдыкам, якія працуюць з хворымі і падазраванымі на каранавірус, прадугледжаныя два віды надбавак. Адзін від — паводле ўказу прэзыдэнта ад 16 красавіка № 131 «Аб матэрыяльным стымуляваньні работнікаў аховы здароўя».

Другі від выплат — гэта матэрыяльная дапамога са страхавога фонду ФПБ.

«Галоўны лекар паліклінікі казала пра тое, што тычыцца ўказу прэзыдэнта.

Тут павінны быць дакумэнты, якія дакладна пацьвярджаюць, што мэдыкі працавалі з каранавіруснымі хворымі. Выплаты залежаць ад перыяду працы. Гэтая надбаўка выплачваецца па рашэньні камісіі мэдычнай установы для тых, хто працаваў з „кавіднымі" хворымі. Калі мэдыкі скардзяцца, што выплаты былі ня ў тым аб'ёме — гэта па ўказу прэзыдэнта», — тлумачыць юрыст.

**600 рублёў ад ФПБ атрымаюць толькі тыя мэдыкі, хто хварэў больш за 21 дзень**

Што тычыцца прафсаюзных выплат — гэта выплаты чальцам прафсаюзу, якія заразіліся COVID-19 на працоўных месцах і перахварэлі. Гэта матэрыяльная дапамога са страхавога прафсаюзнага фонду, які быў створаны 8 красавіка. Мэдыкам, якія перахварэлі на каранавірус, былі абяцаныя даплаты ў залежнасьці ад цяжкасьці захворваньня. Гаворка ішла аб сумах ад 600 да 5000 рублёў, тлумачыць юрыст ФПБ.

«Паліклініка ніякага дачыненьня да прафсаюзных выплат ня мае. Гэта каса ўзаемадапамогі, усе прафсаюзы скінуліся ў гэты страхавы фонд.

Для матэрыяльнай дапамогі прафсаюзная арганізацыя мэдычнай установы падае хадайніцтва ў ФПБ, і Фэдэрацыя выплачвае, калі мэдработнік хварэў больш за 21 дзень, 600 рублёў. Калі мэдработнік памёр — сваякам па заяве выплачваецца 5 тысяч. Іншых сум па нашых выплатах няма.

Калі мэдработнік перахварэў у лёгкай форме, менш за 21 дзень, — яму выплачваецца матэрыяльная дапамога ў пярвічных прафсаюзных арганізацыях. Натуральна, сумы там меншыя», — тлумачыць юрыст Фэдэрацыі прафсаюзаў.

Юрыст ФПБ дадаў, што на мінулым тыдні матэрыяльную дапамогу па 600 рублёў выплацілі 47 асобам, якія хварэлі больш за 21 дзень.

Вядома, што толькі на Віцебшчыне каранавірусам заразіліся каля 1500 мэдыкаў, на Гомельшчыне — каля 500.

А сьмяротнасьць сярод беларускіх мэдыкаў, паводле беларускай статыстыкі, значна вышэйшая, чым у Эўропе.

**Іна Студзінская**
**Радыё Свабода**

АНАЛІТЫКА

# «ІДЭАЛЬНЫ» КАНДЫДАТ ПА-БЕЛАРУСКУ

**Віктар Марціновіч на *budzma.by* разважае пра чаканні беларусаў на сёлетніх прэзідэнцкіх выбарах.**




Дзіву даешся, як не хапае дзесяцімільённай краіне хаця б якой аналітыкі бягучага моманту. Куды падзеліся ўсе тыя, чыёй работай ёсць рабіць высновы, шырэйшыя за прадказанне «зарэгіструюць/не зарэгіструюць»? Хіба мы будзем і надалей існаваць у рэжыме дзівацкіх версіяў у ТГ і абсмоктвання дураты, якую паказалі па тэлебачанні?

Зазначу: мяне цікавіць не палітыка.

Мяне цікавяць беларусы.

Мы з вамі.

І з гэтага пункту гледжання пра гэтыя выбары, яшчэ да таго як яны пачаліся, можна зрабіць шмат цікавых высноваў.

Першае, што мяне вельмі ўражвае, — той факт, што галоўным героем беларускай публічнай сферы за апошні тыдзень зрабілася асоба чалавека, што кіраваў рускім банкам, прычым не проста рускім банкам, а «Белгазпрамбанкам». Бабарыка ўжо зрабіўся самым папулярным сапернікам улады за ўсю гісторыю з 1994 года па колькасці запісаных да яго паплечнікаў (10 101), яго група падыходзіць блізка да заяўленай колькасці ініцыятыўнай групы Лукашэнкі. Людзі — у тым ліку людзі з Фэйсбука — тысячамі запісваюцца да яго.

І гэта тыя самыя людзі, якія 10 гадоў таму папракалі Някляева, што за «Гавары праўду» стаяла Масква.

Дык вось, глядзіце які парадокс: нацыянальны паэт, аўтар беларускамоўных вершаў, якія вызначалі беларускую самасць, быў «дрэнны», «прарасійскі» кандыдат, а просты кіраўнік «Белгазпрамбанка» — файны, ідэальны.

Чым гэта можа тлумачыцца?

Тым, што «Белгазпрамбанк» вяртаў страчаныя культурніцкія каштоўнасці?

Тым, што Бабарыка «легалізаваў» у Беларусі Шагала (за гэта ад мяне яму асабісты рэспект)?

Ці тым, што маштабы крызісу ў краіне цяпер такія, што пратэстныя настроі пераважаюць над меркаваннямі геапалітыкі і небяспекай страты суверэнітэту?

Далей: відавочна, што пры ўсім гэтым і Бабарыка, і Цапкала — не самыя зацятыя крытыкі рэжыму. Іхныя словы абцякальныя, часам у сваіх інтэрв'ю яны нагадваюць кіраўнікоў выканкамаў, якія дазволілі сабе крышачку пераганць палку ў адказе на даведзеныя цэнтрам паказчыкі надояў. І вось гэты падыход канае. А радыкальны падыход Статкевіча — не.

Што тут спрацоўвае? Выхаваная беларуская баязлівасць звязвацца з людзьмі, якія — відавочна — пасля выбараў зробяцца ахвярамі зваротнай хвалі (быццам той хваляй не накрые абсалютна ўсіх кандыдатаў, як было ў 2010-м)?

Ці, можа, ва ўяўленні большасці кандыдат кшталту Зяленскага ці Навальнага — малады, борзды, які «тыкае» сапернiку, — недастаткова сур'ёзны? Недастаткова рэспектабельны? Недастаткова ўлада?

І, такім чынам, хто б і на якіх выбарах у Беларусі ні кідаў выклік наяўнаму парадку — ён мусіць карыстацца куртуазнай мовай палаца, а не мегафоннай мовай плошчы?

Далей: выглядае, што «былы функцыянер» кшталту Чыгіра, Домаша, Саннікава, Казуліна ці тым больш «актыўны апазіцыянер» кшталту Лябедзькі, Статкевіча ці таго ж Саннікава ў 2010-м — у вачах патэнцыйных выбаршчыкаў менш цікавы варыянт, чым банкір ці (як у выпадку з Цапкалам і ПВТ) чалавек, здольны зарабляць грошы.

У гэтым сэнсе беларусы, дарэчы, блізкія літоўцам, чый дзейны прэзідэнт Гітанас Наўседа быў галоўным эканамістам SEB-банка, а папярэдні прэзідэнт, Даля Грыбаўскайтэ, да прыходу на пасаду працавала камісарам ЕС па бюджэце і фінансавым планаванні.

Цікавы дадатак — мова: чалавек, што «парваў» выбарцаў яшчэ да старту кампаніі, не толькі прадстаўляе «Белгазпрамбанк», але і размаўляе рускай. Што б тут сказаў Зянон?

Нарэшце: ступень медыятызаванасці цяпер такая, што пра ўваход у кампанію можна абвяшчаць проста праз Фэйсбук. На дадзеным этапе гэтага хапіла, каб трапіць на топавыя пазіцыі ва ўсе галоўныя медыя, каб набраць велізарную колькасць прыхільнікаў, каб скаланучь сацыяльную прастору. Відавочна, тыя, хто ладзіў апазіцыйныя «праймерыз», каб прыцягнуць хаця б якую ўвагу да палітычнай альтэрнатывы, трохі перамудрылі.

Такім чынам, вось ён, партрэт чаканняў беларусаў у 2020 годзе: рускамоўны кіраўнік рускага банка, звязанага з «Газпрамам», што мякка ўпікае цяперашні рэжым. Выглядае, меў рацыю Юры Дракахруст: «Расія ў галаве», і без выразных сімпатый да Масквы і сімвалічнай належнасці да «рускага свету» тут немагчыма адбыцца ні ў музыцы, ні ў палітыцы. Альтэрнатывы — паўпадпольная кар'ера Вольскага ці траекторыя Пазняка.

Усё вышэй напісанае, дарэчы, ёсць і адказам на пытанне «зарэгіструюць ці не зарэгіструюць».

Я вельмі здзіўлюся, калі кандыдат з такой электаральнай дынамікай будзе дапушчаны ў бюлетэні.

То, магчыма, вышэй акрэсленыя высновы пра беларусаў — самае каштоўнае, што можна зрабіць з падзеяў апошняга тыдня.

**Віктар Марціновіч**
**budzma.by**

ПРА НАС

# МЫ ХОТИМ НОРМАЛЬНОЙ ЖИЗНИ

**В абсолютно безнадежной ситуации с белорусскими выборами на арену вышли тяжеловесы. Или, по крайней мере, люди, которые уже сделали себе и карьеру, и имя. Им есть что терять, им есть на что жить, им не нужны выборы, чтобы засветиться. Что бы это значило?**

Можно строить конспирологические версии, искать руку Москвы, Моссада или духа Кастуся Калиновского. Но мне кажется, что все просто.

Всем, ну практически всем безумно надоело жить в состоянии непрекращающейся истерики. Посевная — бой, уборочная — затяжные бои; кругом враги, мы в окопах или судорожно мечемся — то на запад бежим, то на восток, то аж до Африки... Никто ни за что не отвечает, нигде ничего не добиться, и как рожать, и как хоронить знает только один человек, да и он давно в своих мыслях запутался.

Белорусы ведь народ степенный, рассудительный и дисциплинированный. Сказали «Копать!» — будут копать. Но даже в нудной, монотонной и неблагодарной работе они хотят видеть смысл. Нельзя ведь как в армейских анекдотах: до обеда — копать, после обеда — закапывать. И так 26 лет. А у нас именно так и получилось.

Вот недавно Александр Лукашенко во время поездки на Витебщину пообещал, что за свою следующую президентскую каденцию доведет, наконец, эту область до ума. То есть за четверть века не смог, а теперь вдруг чудо случится. Помножит большой опыт на остатки энергии и будет витеблянам счастье. Ну, ну... Знаем, проходили, уже видели, как все будет. У других заберет — отдаст Витебщине, увидит, что толку ноль, что стало еще хуже — раскричится, посадит провинившихся, заберет у Витебщины и кинется спасать Гродненщину.

Ни одно дело этот человек не довел до ума. Ни одно дело! Все 26 лет командный голос вырабатывал.

У меня вообще ощущение, что Александр Лукашенко смотрит много военных фильмов. Отсюда и парад во время эпидемии, и любовь к раздаче наград и званий, и генеральская форма на губернаторах, и огромное доверие к людям в погонах, которые вообще-то в жизни сами ничего не создали и со времен училищ привыкли жить на полном гособеспечении.

Это ведь так эффектно выглядит на экране: «Приказы не обсуждаются!», «Выполнить любой ценой!», «Разобраться по законам военного времени!»... А если что не так — «Война все спишет». И понеслись.

Но мы ведь не в кино, чтобы тупо бегать кругами или копать от забора и до обеда. Дубль раз, дубль два, дубль шесть.

В шестой раз Лукашенко идет на выборы, чтобы опять править этой страной бессмысленно и беспощадно! Шесть, знаете ли, число с большим смыслом. Можно раз обмануться, два, три. Но чтобы в шестой раз поверить, что при Лукашенко жизнь в Беларуси, наконец, выйдет из состояния скандалов, истерик и невроза и войдет в нормальное русло, это уже точно надо быть пациентом платы номер 6. Такие, конечно, есть. Но, по всему видно, не много.

Ничего хорошего от Лукашенко уже никто не ждет, никаких надежд и иллюзий не питает. В этом смысле власть, как и в 1994-м, валяется под ногами. И вопрос только в том, кто и как ее поднимет. Иванов, Петров, Сидоров, Бабарыко, Цепкало, Макей, — любой человек, который пойдет на выборы не для того, чтобы приобрести на них политический вес, а с ранее наработанным багажом, имеет хорошие шансы.

Шансы удваиваются, если этот человек не орет, не хамит, не пугает посадками, не жжет пролетарским глаголом и примитивизмом.

Шансы утраиваются, если он не ищет вокруг себя врагов, а ищет друзей.

Шансы умножаются на десять, если он видит и оценивает мир с точки зрения здравого смысла. Просто — с точки зрения здравого смысла и уважительного отношения к людям.

Мы так по этому соскучились. Мы так хотим нормальной жизни. Мы так устали от Швондеров и Шариковых. Нам так нужен профессор Преображенский.

Но Швондеры всегда побеждали, скажете вы. Да, они умеют брать глоткой, нахрапом и грубой силой. Но они не умеют вовремя остановиться. И поэтому теряют все. ОБЯЗАТЕЛЬНО теряют всё.

**Светлана Калинкина**
**belaruspartisan.by**

ПЕРАДВЫБАРНАЯ КАМПАНІЯ

# ТРЭЦЯЯ ПАМЫЛКА ЛУКАШЭНКІ

**Ён наагул шмат памылак зрабіў — і не дзіўна: дваццаць пяць гадоў цябе ніхто не смее паправіць, паказаць табе, нават намякнуць, што ты чагосьці не ведаеш. Усе, хто мог гэта рабіць, былі выдушаныя ім жа самім з улады ў першыя паўтара гады, прычым настолькі эфектыўна, што астатнія самі ж і перакаваліся на ўсім скаку — абы ацалець.**

Але падчас гэтай, ледзь распачатай перадвыбарнай кампаніі, кандыдат у кандыдаты ў прэзідэнты Беларусі паспеў зрабіць тры буйныя памылкі.

Першая. Фактычна аднаасобна вызначаючы правілы гульні, Аляксандр Лукашэнка хацеў выпіць чару папярэдняй кадэнцыі, што называецца, да дна. З майго пункту гледжання, гэта можна тлумачыць як адкрытую гатоўнасць зрабіць наступныя прэзідэнцкія выбары датэрміновымі — і гэта мэсідж не столькі нам, беларусам, якіх ён паранейшаму лічыць не суверэнам краіны, а яго асабістымі падданымі. Гэты мэсідж адрасаваны знешнім гульцам, ад якіх ён залежыць. І хоць тады, калі мэсэдж гэты быў адпраўлены, аб каронавірусе нават кітайскія кажаны не ведалі, умовы для перавыбрання дзеючага кіраўніка беларускай дзяржавы, з пункту гледжання развіцця эканомікі, і тады былі не лепшымі. Ціск Расеі не быў накіраваны на інкарпарацыю Беларусі (хрэн яна цяпер Беларусь змагла б праглынуць); яна дамагалася выдалення «любімай мазалі», якой даўно ўжо з'яўляецца Аляксандр Рыгоравіч. А ўжо цяпер і зусім сітуацыя пагоршылася. Увогуле, як ужо шмат хто пісаў, пераабрацца калькі-небудзь праўдападобна становіцца ўсё складаней.

Па-другое. Трэба было пераступіць праз сябе і змяніць Ярмошыну на пасадзе ЦВК. Але Лідзія Міхайлаўна — ака"Баршчаварка«) — гэта ўжо амаль дыягназ. Ён да яе прывык. Пуцін замяніў некалі «чараўніка» Чурава спадарыняй Памфілавай з амаль беласнежнай у тыя часы рэпутацыяй. Гэта дазволіла яму змікшыраваць шмат якія моманты. Адпраў Лукашэнку пасля парламенцкіх выбараў Ярмошыну на пенсію — і захад апладзіраваў бы, і ўнутры краіны многія б падумалі, што і сапраўды наступіў разгул дэмакратыі. Зараз знаходжанне ЦВК у статусе рондаля з дрэнна звараным баршчом распаляе і без таго складаную сітуацыю.

Трэцяя памылка канчаткова праявіла сябе сёння. Здавалася, можна вытруціць яшчэ на стадыі ўсходаў насенне незадаволенасці, не зарэгістраваўшы цэлы натоўп кандыдатаў у кандыдаты ад Статкевіча і што з імі. Можна арыштаваць і пасадзіць на суткі блогера Ціханоўскага. Можна падарваць знутры праймерыз «традыцыйнай» апазіцыі — той, што «ціха сам з сабою...». Але гэта толькі ў тым выпадку, калі ты сапраўды пераканаваны, што народ цябе любіць, што твае прыхлябалы сапраўды кажуць табе праўду, і калі на самой справе ў краіне ўсё добра.

А ў краіне — усё добра?

І першы, і другі Майдан ва Украіне ўтварыліся зусім не таму, што гэтага захацела «традыцыйная» апазіцыя, прадстаўленая (у адрозненне ад нашай) у парламенце і г. д. Проста людзей задалбала ўлада. І думка пра тое, што яшчэ некаторы час прыйдзецца трываць гэтую ўладу, якая замінае жыць замест таго, каб дапамагаць; трываць абыякавасць чыноўнікаў і дэпутатаў, якія ўспамінаюць пра грамадзянаў толькі напярэдадні выбараў; трываць хлусню, якая зліваецца з тэлеэкранаў каналаў, што фінансуюцца ўладай і працуюць на ўладу... Увогуле, першы Майдан быў выкліканы спробай Кучмы падсунуць у якасці пераемніка Віктара Януковіча.

Другі Майдан справакавала глупства таго ж Януковіча, які палічыў, што ўкраінцы — быдла, якіх улада можа весці туды, куды хоча яна, а не яны. Разварот ад Еўропы да Расеі на поўным разгоне ўрадавага картэжу справакаваў дзеянне «падушкі бяспекі» — той самы «Еўрамайдан», «рэвалюцыю годнасці». І гэтая «падушка бяспекі» задушыла дзейную украінскую ўладу.

Прыбраўшы з бюлетэняў усіх радыкалаў, Ярмошына не прыбрала прычыну незадаволенасці. Улада сапраўды дастала ўсіх. І сённяшні мітынг, у якіператварыўся руціны збор подпісаў каля Камароўкі — сведчанне таго, што наперадзе нас можа чакаць нешта значна больш масавае, чым зімовая Плошча 2010 года. І значна больш жорсткае — але на гэты раз з абодвух бакоў...

*(скарочана)*

**Аляксандр Фядута**
**belsat.eu**

ФІНАНСЫ

# КАК ВЛАСТИ БЕЛАРУСИ СПАСАЮТ КАЗНУ

**Еще в январе власти планировали сокращение госдолга, но ситуация за последние месяцы круто изменилась, и теперь государство ведет переговоры, которые приведут к росту госдолга. Иного пути, чтобы избежать радикального секвестра бюджета, практически не осталось.**

**Долговая политика пошла вспять**

Согласно программе управления государственными финансами до 2025 года, через пять лет при условии увеличения ВВП до 100 млрд долларов «предполагается снижение уровня государственного долга относительно ВВП до 25 процентов».

По иронии судьбы программа управлениягосударственнымифинансами была утверждена 12 марта, а утром того же дня белорусы узнали о том, что Всемирная организация здравоохранения объявила пандемию коронавируса. Пандемия вызвала глобальный кризис, и сейчас белорусские власти думают уже не о снижении, а о вынужденном увеличении государственного долга.

На 1,2 млрд рублей планируется увеличить внутренний госдолг из-за предоставления госгарантий для кредитования наиболее пострадавших предприятий. Кроме этого, власти ведут переговоры о привлечении внешних заимствований на сумму до 3 млрд долларов и уже направили соответствующие запросы в международные финансовые организации.

В том числе 900 млн долларов правительство рассчитывает привлечь у Международного валютного фонда, до 1 млрд долларов — у Европейского банка реконструкции и развития. Также правительство запросило финансирование у Всемирного банка, Европейского инвестиционного банка, а также пытается искать деньги на Востоке.

…В общем, практически ко всем финансовым институтам, у которых можно просить деньги, Беларусь уже обратилась.

**Дадут ли Беларуси денег? Зависит от МВФ**

В минувшую пятницу Всемирный банк сообщил, что одобрил выделение Беларуси 90 млн евро. Но это помощь под конкретные нужды белорусской системы здравоохранения, чтобы бороться с пандемией.

«Я могу подтвердить, что мы получили белорусский запрос для получения средств в рамках инструмента быстрого финансирования. МВФ ведет переговоры с белорусскими властями, оценивает ситуацию и политику властей Беларуси», — сказал в минувший четверг директор департамента коммуникаций МВФ Джерри Райс во время видеобрифинга в Вашингтоне, отвечая на вопрос БелаПАН.

При этом не факт, что переговоры с МВФ окажутся на этот раз легкими. Старший постоянный представитель МВФ по региону Центральной и Восточной Европы Надим Илахи в минувший четверг сообщил, что существуют некие рекомендации фонда белорусским властям в части фискальной политики.

«Мы находимся в фазе дискуссий с белорусскими властями. Я не могу сейчас сказать больше», — отметил Илахи, отвечая в минувший четверг на вопросы БелаПАН в ходе вебинара, организованного Исследовательским центром ИПМ и Фондом Конрада Аденауэра.

…Белорусские аналитики считают, что от решения МВФ будет зависеть и поведение других международных организаций, к которым за деньгами обратилось белорусское правительство.

«На Западе большое значение имеет решение МВФ, который проводит детальную оценку политики экономических властей для принятия решения о выделении средств. Поэтому можно предположить, что Всемирный банк, а также европейские кредиторы будут принимать решение о финансовой поддержке Беларуси с учетом позиции валютного фонда», — предположил в комментарии для БелаПАН старший аналитик «Альпари» Вадим Иосуб.

Он считает, что МВФ может как предоставить помощь Беларуси (в связи с коронакризисом), так и нет (из-за невыполнения всех рекомендаций ВОЗ).

«Негласное правило также заключается в том, что валютный фонд обычно не предоставляет финансирование странам в период избирательной кампании», — отмечает Иосуб.

По его мнению, если в период избирательной кампании внешняя поддержка в Беларусь не поступит, то на фискальной политике это не скажется…

*(скарочана)*

**Дмитрий Заяц**
**«Белапан»**

COVID-19

# «ВСЯ ОФИЦИАЛЬНАЯ СТАТИСТИКА ПО КОРОНАВИРУСУ СЫПЛЕТСЯ…»

**На Витебщине около полутора тысяч медиков были инфицированы коронавирусом. Официальные данные по врачам заставили засомневаться в других цифрах по заболевшим.**

Глава облздрава Михаил Вишневецкий заявил, что с 1 апреля по 12 мая в Витебской области выписали более 5400 пациентов, вылеченных от пневмонии. К работе вернулись 308 медиков, перенесших коронавирусную инфекцию. Примечательно, что ранее облздрав сообщал, что по состоянию на 11 мая 20% медработников, инфицированных коронавирусом, выздоровели, в том числе и от пневмоний, и приступили к работе.

TUT.BY подсчитал, что при таком раскладе выходит, что всего за период распространения инфекции в стране на Витебщине коронавирусом были инфицированы более полутора тысяч медиков.

Эти цифры очень впечатлили интернет-пользователей. И заставили поставить под сомнение цифры по остальным заболевшим. «Очень интересная статистика. Можно даже посчитать: Выздоровело 5400 пациентов и 300 врачей — т.е. примерно 18 пациентов на 1 врача... Но тогда если заболело 1500 врачей — пациентов получается 27 000! И это только по Витебщине! Как-то не совпадает с официальной статистикой», — отмечают комментаторы на дискуссионной площадке talks.by.

«Тут либо тесты в основном только медикам делают, либо «кто-то урот», — заключают другие.

«А как не заразится, если средств индивидуальной защиты в первое время просто не было и постоянно контактировали с больными?»

«Врачей и номенклатуру не спрячешь. А одиноких стариков можно не считать, с остальными по-разному. А сколько вообще не выявленных», — уверены комментаторы.

Некоторые же подсчитали, что при таком раскладе в больницах должны быть только медики и члены их семей.

«В семье минимум 3-4 человека. Каждый медик (1500), если не жил в больнице или гостинице отдельно от семьи, мог заразить близких. Получается, что почти все заразившиеся (4500) в Витебской области — это семьи медиков?» — ставят некоторые под сомнение цифры.

«Плохо только, что не все знают это. Пожилой народ в основном берёт информацию из БТ, а там сами знаете, как показывают проблему, как будто её и нет. Автобусы переполненные стариками и старухами с корзинками и авоськами, да ещё в часы-пик. И не все в масках даже. Как до них донести, чтобы берегли себя и окружающих?»

Многие же комментаторы высказали возмущение работой Минздрава.

«Огромная цифра инфицированных медработников области — это позор Минздраву!»

«Когда Караник ответит на вопрос, почему в Беларуси медиков среди умерших больше, чем в других странах? Это вызвано отсутствием защитных средств у врачей Беларуси? Тогда вопрос, почему министр еще на своем месте? Или это объясняется манипулированием цифрами умерших? Тогда это тоже вопрос к Минздраву».

«Беспечность наших врачей лишь в одном — выбрали профессию, не учитывая уровень зарплаты и отношение государства».

*(скарочана)*

**gazetaby.com**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 30.05.2020 у 16.10**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.